НЯДЗЕЛЯ 7 ВЕРАСЬНЯ 1919 г. Цэна 50 ф.

# Беларускае Жыцьцё

ГОД I. ІЛЮСТРАВАНАЯ ЧАСОПІСЬ № 12.

НАШЫ ПОЭТЫ.



## Вінцук Дунін - Марцінкевіч.

(*1807 — 1885*).

Поэт радзіўся у Бабруйшчыне. Бацька яго, дробны шляхціц, быў пасэсарам, арандаваў фальварак Панюшкевічы (Бабр. пав, Менск. г.). У Панюшкевічах працякло маленства Вінцука. Сярэднюю школу ён скончыў у Бабруйску ў 1824 годзе. Далей вучыцца паехаў у Вільню, але незабавам пераехаў у Пецярбург, дзе слухаў лекцыі на медыцынскім факультэце. Ня скончыўшы унівэрсытэцкай навукі, В. Д.-Марцінкевіч перабраўся на жыцьцё у Менск, дзе і служыў аж да 1840 г. у Менскіх урадовых установах (меў пасаду у каталіцкай духоўнай консісторыі). Потым ён купіў сабе невялічкі двор Люцынку пад Менскам, дзе і жыў да самай сьмерці.

В. Д.-Марцінкевіч пісау ня толькі пабеларуску, але і папольску, аднак польскія творы яго ня маюць абы-якой літэратурнай вартасьці, і не яны здабылі яму славу пісьменьніка.

Поэтычная здольнасьць пясьняра ў поўнай меры адбілася ў беларускіх яго творах. Па часу свайго друкаваньня яны стаяць гэтак:

1. **Сялянка**, опэра ў 2-х актах, музыка Манюшка (1846 г.).
2. **Гапон**, повесьць у вершах (1855 г.).
3. **Вечарніцы**, апавяданьні-песьні (1855 г.).
4. **Купальле**, народная повесьць (1856 г.).
5. **Шчароўскія дажынкі**, повесьць (1856 г.).
6. **Пан Тадэуш** А. Міцкевіча, пераклад (1859 г.).
7. Дробныя вершы (1860 г. і інш. г.г.).

Апроч таго, іншыя творы В. Д.-Марцінкевіча пабачылі сьвет толькі многа пазьней пасьля сьмерці поэта:

8. **Пінская шляхта**, фарс-водевіль, рукапіс 1866 г., першы раз друков. у 1918 г. („В. Б.“).
9. **Залёты**, оперэта, муз. Кімонт, першы раз друкавалася у «В. Бел.» ў 1918 г.

Ня мінулася і дзесяцёх гадоў, як пасьля опэры „Сялянка“, у якой пабеларуску гаманяць толькі мужыкі, Марцінкевіч пусьціў у людзі свайго „Гапона“, повесьць «у мове беларускага люду напісаную». У „Гапоне“ пяецца аб тым, як мужыцкія дзеці, дзяцюк Гапон і дзяўчына Кацярына, любяцца і рыхтуюцца пабрацца, але панскі аканом сам улюбіўся у Кацярыну і падстроіў так, што Гапона здаюць у салдаты. Дзяцюку, аднак, пашчасьціла у войску, і ён выходзіць на афіцэра. На новым наборы некрутаў у Магілеве за сталом сядзіць заслужоны Гапон. Тымчасам паня пратурыла круцяля-аканома, і ён цяпер сярод некрутаў.

Гапон пазнаў яго і здаў у салдаты. Пасьля гэтага паехаў да свае пані і жаніўся з каханай Кацярынкай.

Гэтым творам В. Д. Марцінкевіч хацеў давесьці, каб паны пільнавалі за ўчынкамі сваіх дурных паслугачых, бо іначай сяляне, за іх, і паноў любіць ня будуць; а мужыкам хацеў паказаць, што паны, зазвычай, бываюць добрыя і ў бядзе сялян нявінаваты.

Аднак, з гэтага твора пачынаецца штосьці новае ў адносінах беларускіх *шляхоцкіх* пісьменьнікаў да сялян: у творах Марцінкевіча ужо ня кідаецца у вочы, што сяляне — якаясь іншая парода людзей, чорная костка; аўтор навет выводзіць свайго героя Гапона ў афіцэры і ўцяшаецца з яго. А з прычыны гэтакай блізкасьці да сялян, у Марцінкевіча пачынае прабівацца, быць можа, несьвядома, нешта падобнае да *нацыянальных* беларускіх сымпатый. Ен уцяшаецца з Гапона якраз за яго прыхільнасьць да ўсяго роднага.

І толькі ты по нова-шляхоцкае узгадаваньне, б.-м. абпалячанасьць і адсутнасьць прад вачыма добрага прыкладу у ранейшым беларускім пісьменстве замінаюць разьвіцьцю соцыяльнай і нацыянальнай ідэйнасьці нашага пясьняра. І ён разьвіваецца сам з разьвіцьцем ідэй у грамадзе. Але, хоць і ня йдзе ён на самым перадзе, як галоўны правадыр, затое-ж ён пэўным ужо шляхам вядзе за сабою вялікую грамаду шырокага грамадзянства, вядзе яе сваім прыгожым беларускім словам.

Такім чынам В. Д.-Марцінкевіч падрыхтаваў нашую новую літэратуру, падрыхтаваў Ф. Багушэвіча.

**М. Г.**

# Беларуская справа.

У варшаўскіх газэтах паявілося гэтакая заява старшыні Беларускага Камітэта ў Варшаве:

„Ад нейкага часу ў зьвязі з пабедным паходам польскага войска ў Беларусі, якую сьмелая польская армія—згодна з абятніцай яе Галоўнага Камандуючага і Польскага Сойма—кусок за куском зямлі аслабаняе ад бальшавіцкага наезда — у іншых частках польскага грамадзянства і польскай прэсы адчуваецца няпрыхільнае настраеньне дзеля далейшага аружнага дзеяньня на ўсходзе; там і сям чуваць галавы, якія клічуць, каб спыніць барацьбу з маскоўскімі бальшавікамі, каб зрабіць з Масквой згоду і паставіць граічныя стоўбы Рэчыпаспалітай калі не бліжэй, дык найдалей на Бярэзіне. Пры гэтым кажуць усё шырэй, што паход на усход,—гэта дзеяньне, якое мае

# КРОСНЫ*).

III.

Быўшы смутному, трэба
разьвесяліцца...
З *нар. песьні.*

Восень відочна канчалася.

Мінуліся тыя рэдкія сонечныя пагодлівыя дні, калі ўраньні хрусталі пад нагамі ільдзінкі, як шкло; калі адтаявала груда на вуліцы, і празрыстае, ядранае паветра, сіняе неба і прыемны, араматны, і быццам кадзільны, з ладану, дымок яленца ў полі, гдзе пастушкі і пастўшкі клалі вогнішча, усё гэта бадрыла, і асьвяжала, і паддавала весёласьці ў дзень, і абхаплівала смуткуючай кволай прыгожасьцю увечары; мінуліся тыя дні, калі садзілася чырванеючае сонца, а залатое лісьцё, падхопленае буйнеючым ветрам, шуршэла і мільгала з-пад голых, смутна-спакойных дрэў далёка-далёка па невясёламу раздольлю, па полю халоднаму, голаму, блізка што зімоваму; ах, мінуліся тыя дні!

Размачылі зямлю бязконцыя дажджы. Мокры, хлопал, белым роем сьнег што дня зрэдку зьлятаў на зямлю і зьнікаў у гразі.

З надвор'я людзі і жывёла пахаваліся ў хаты, пуні і цёплыя прытулкі, бо дзьмухала ня жартам сіверка і сьцюжа.

З акалелымі, чырвонымі і няслухнянымі рукамі бегаў аплікант па полю з тэодолітам. Марудна центраваў яго на размоклых ужо капцох з пахіленымі стаўпамі. Работнікі, нудныя і пакорныя, цягалі ланцуг, часам клалі цяпло, і тады троху ажывалі; садзіўся на кукярэчкі і грэў рукі, хухаў на пальцы аплікант; а пальцы, як граблі, не ўладалі алоўкам і чырванелі, як буракі, і балелі.

Кароткі дзень шпарка мінаўся.

Дым, і мгла, і змрок ахінулі далечу. Прыдарожны альшэўнік згубіў выразнасьць контураў і зьліваўся няпрыкметна з тою муцьцю і шэрасьцю, што была наўкола. Абы-дзе на курганочку бялела сьнегам зялёнкаватая рунь. Сьнег быў паўсюдых, ды стаяў і нарабіў патапечы. І смутна было, што гэтак растапілася дарога, па якой у сухія, халадковыя і ядраныя дні, вечарочкам, прыемна было ўздымаць марозны

---

*) *Глядзі* №№ 10 і 11.

на мэце толькі абарону інтарэсаў «польскіх вялікіх зямлеўласьнікаў» і нічога болей апрача гэтага...

Як начальнік афіцыяльнай экспозытуры Беларусаў на варшаўскім грунце і як старшыня Беларускага Камітэта ў Варшаве, лічу сваім абавязкам сказаць аб гэтай справе і дзеля гэтага, карыстаючыся газэтамі, заявіць польскаму грамадзянству вось што:

1) Беларускі народ, зьвязаны праз сьцяг доўгіх гадоў з народам польскім супольна пражытымі мукамі і супольнай доляй-нядоляй, стаяў і моцна стаіць на гэтакім разуменьні заданьняў геройскага пахода польскага войска ў Беларусі, што гэтае дзеяньне мае на мэце не абарону інтарэсоў той ці іншай клясы польскага грамадзянства на нашай зямлі, але думаў і не перэстае далей гэтак сама думаць, што гэтае дзеяньне мае на мэце аслабаніць з маскоўскай няволі ўсе беларускія землі, так як і ўсіх жыхароў Беларусі бяз рожніцы кляс і нацыянальнасьці. Гэтым можна растлумачыць сэрдэчнае, а нераз і энтузьястычнае павітаньне польскага войска беларусамі на нашай зямлі.

Беларускі народ, хочучы, каб Беларусь якнайцясней злучылася з Польшчай згодна з клічам— «Вольныя з вольнымі і роўныя з роўнымі“, — з страхам, зусім зразумелым осабліва для польскага народа, адкідае думку аб якімколечы раздзеле Беларусі, ня гледзячы на тое, хто гэта зробіць.

Калі паставіць гранічныя стоўбы на Бярэзіне і гэткім чынам раздзяліць на дзьве паловы беларускія землі, аддаючы іх на нацыянальную загубу чужынцам, гэта значыць збудзіць у нашым народзе, которага ўсьведамленьне расьце с кожным днём, пачуцьцё ніколі не забытай крыўды і жалю да народа, які накінуў-бы нам гэты раздзел.

3) Шчыра жадаючы якнайцясьнейшага злучэньня з Польшчай беларускіх земель прынамсі ў гістарычных граніцах з часоў за 1772 г. — на основе ўзаемнага паразуменьня абодвых народоў — прэдстаўнікі, беларусаў не адзін раз ад часу апавешчэньня гістарычнай адозвы 22 красавіка г. г. бяз рэзультату зварачываюцца да польскай улады, каб пачаць адпаведныя перэгаворы і прыступіць да рэальнай дзеяльнасьці маючай на мэце якнайхутчэй супольнымі сіламі дайсьці да нашых гістарычных граніцаў і да таго, каб зьдзейсьніць палітычнае супольнае жыцьцё Беларусі з Польшчай.

На жаль, усе гэтыя патугі і стараньні разьбіваюцца быццам аб сьценку, дзеля таго, што ўлада ня лічыцца з нашымі прапазыцыямі. Самыя скромныя нашыя нацыянальныя постуляты, якія зусім згодны з прынятымі праз Польскі Сойм праўнымі прынцыпамі ў адношэньні да культурных патрэбнасьцяў кожнага народа—дагэтуль не знайшлі одкліка ў адпаведнай улады. Абецанае ў адозве Галоўнага Камандуючага ўчасьце месцовых грамадзян ў праўленьні краем ані ў адным прыпадку не датычыло беларусаў.

Лічу лішнім пісаць аб тым, як усё гэта ўносіць

---

пыл, ідучы пад альшэўнікам з мястэчка і маючы у кішані корэспондэнцыю.

Смутак і нуда апанавалі апліканта. Шукаў ён нявязку у зьёмцы і горшай за свае долі ня мысьліў сабе. Смутак і нуда быццам мякчэлі пры шугаючым полымю, а калі на тое—дык глыбачэлі і рабіліся яшчэ датклівейшымі.

А полымя шугала, і работнікі ажывалі.

— Учора па абедзе, — казала Міхася, каб сагрэцца,—дзядзька Казюк ледзьва не сканаў. Уважыў Стасюку свае зямлі два сажні і пасварыўся з цёткаю, дык яго і хапіла за жывот. Пайшоў да Стасюка, упрочкі ад цёткі, лёг на лаўцы пад абразамі... людзі думалі паміраe. Насыпалі яму ў бутэльку лыжку сажы, лыжку солі і набухторылі вады,—пі!—кажуць яму. А ён: „Не хавайце мяне тутака. Вязіце мяне у Біняконі да Савіцкага поля“.

— А тутака?

— „А нех тут усё возерам сойдзе, і хаты і людзі, і могільнікі. Аей, аей! Няхай, кажа, во так пакруціць (Міхася круціла карэлымі застыглымі рукамі, моў Казюк), памуціць во так... во, ды ў балота. Во, панясу гэны рубель да Маткі Боскай Вострабрамскай, каб яны зчарнелі, як сажа, усе гэтыя парахвії наўкола“. А сам чорны, чорны ад сажы, як чорт... Ляжыць, стогніць.

Усе сьмяяліся і Казюк.

— Ат, дурніца!—казаў толькі ён і спакойна стаяў, трымаючы рукі над цяплом і адхіляўшы вочы набак ад горкага дыму.

— „Восень на сходзе. Калёніі зроблены і адзначаны барознамі, — разважаў апликант, маўкліва грэючы рукі;—зроблены, зроблены“...

— А Франукова маці так усьцешылася, што аж самлела на новай калёніі,—насьмяхала Міхася далей;— Антось Кароткі ёй барозны ганяў... Ен гарэ, а Сымончыха то адзаду цюхае, то наперад забяжыць крычыць за Антася на валоў: „Цоб—цобэ!“ Лётала, лётала ды й самлела, Антось зямлёю адціраў.

— А Карольцін батька уначы па полю бегае- убіўся Франак у гутарку, каб паказаць, што і яны з маткаю ня горшыя.

— Карольцін бацька браў, браў на пыхі,—як зямлю цанілі, з поля ўцёк,—а цяпер, як нарэзалі замест дзесяцёх толькі чатэры з паловаю дзесяціны, дык учора уночы мераў крокамі калёнію удоўжкі і ўшыркі. Лічыць, лічыць саб'еццa, падхопіць полы,, як кінецца угрунь назад! Скульбядзёнак у той час

у беларускае грамадзянство і прыгатаўляе грунт для варожай дзеля Польшчы і Беларусі маскоўска-бальшавіцкай агітацыі.

Падпісана:

Паўнамочнік Ураду Беларусі і Старшыня Беларускага Камітэта ў Варшаве

**Леон Дубейкоўскі.**

# Выбары у Местовы Урад.

У нядзелю 7 верэсьня будуць выбары ў Местовы Урад. Гэта першыя яшчэ ў нас выбары на шырокіх дэмократычных асновах. Трэба, каб кожны беларус-грамадзянін спроўніў свой абавязак і аддаў свой голас за беларускі спісак **№ 7**. Калі мы гэтага ня зробім, калі на лавах местовых райчых будуць сядзець прэдстаўнікі ўсіх іншых нацыянальнасьцяў апрача беларусаў, дык ня будзе каму бараніць нашу беларускую справу ў местовым самаўпраўленьні.

Памятайце, беларусы, што ваша ўласная справа, доля вашага места—Вільні, і справа вашай Бацькаўшчыны клічуць вас сумленна споўніць свой грамадзянскі абавязак.

Каб не здарылося шкодных для справы памылак, мы друкуем тут, як трэба падаваць голас.

Галасаваньне будзе картачкамі, якую кожны павінен прынесьці с сабой. На картачцы трэба напісаць толькі нумар спіску, за які хочаце аддаць свой голас. Гэты нумар можна напісаць цыфрай або літэрамі, а можа ён быць і надрукаваны.

Перад тым як аддаць свой голас, трэба паказаць свой пашпарт або адпаведны дакумант, які даказывае тожсамасьць асобы. Пасьля гэтага атрымаеце аштэмпляваную канвэрту, у якую вы павінны палажыць сваю картачку, заклеіць і аддаць старшыні, каб той кінуў у скрынку,

Галасы вашы будуць неважныя, калі: 1) картачку ўложыце не ў атрыманую ў камітэце аштэмпляваную канвэрту, а ў якуюсь іншую, або калі зробіце на канвэрце якіколечы знак, 2) калі на сваей картачцы напішыце яшчэ штоколечы апрача нумара спіска або зробіце якійсьці непатрэбны знак, 3) калі апрача вашай картачкі знойдуць яшчэ штоколечы ў канвэрце.

Ані ў выборчым памяшчэньні, ані на вуліцы бліжэй за 50 сажэняў забаронена ўселякая агітацыя.

Падаваць галасы можна будзе праз увесь дзень ад 7 гадз. раніцы да 9 гадз. ў вечары.

Аблічаньне галасоў пачнецца ў панядзелак а гадз. 10 раніцай, а скончыцца мусябыць у ваўторак.

---

варочаўся з Салячнікоў,—так-жа спалохаўся, мысліў, што ваўкалакі ходзяць! Уцякаў, каню дыхавіцу нагнаў, і самога дзісь да хвэльчара павезьлі...

Так намагаўся разьвесяліць кампанію Франак, але ніхто не засьмяяўся.

— Ат, блазьнюк, мелеш, як дурань!—злосна зірнуў на яго стары Казюк, і хлапчук змоўк, а Міхася з Карольцяю даўно пабеглі пад сасонкі.

— „Восень на сходзе. Калёніі зроблены, зроблены"...—разважаў аплікант, слухаючы тыя размовы, і паўсёдная апошніх дзён туга забірала яго усё глыбей.

У самым прыкрым настрою, які падходзіў да крызіса, цягнуўся аплікант з поля да дому сярод змрочных навеваў. Сьледам ішлі работнікі; Казюк самы пэўны на тое, нёс на плячу тэодоліт („квакуху", як ён казаў), прывінчаны да трыногі.

Казюк сяньні быў сьветлы, здаволены, што не паддаўся жонцы. Калі абедалі, яна не давала яму хлеба.

— „Дай мне кавалачак", — прасіў Казюк.— «А, як зямлі, дык ня хочаш, задарма два сажні Стасюку аддаў, а хлеба хочаш,—ня дам хлеба». І не дала.—«А, каб ты падавілася, калі табе ўсяго мала»,— сказаў ёй стары і быў рады, што ён лепшы за яе.

А Казючыха па мокрай цясьцянай ральлі, з жэрдкаю ў руках, у дзіравых калёшах з чужых, вялікіх ног, цэлае паабедзьзе мерала сваго калёнію. Намерала „сабе венцай"—„Не, гэта я ашукалася". Ізноў мерае. Файка (піпка) у гразь з зубоў паляцела. Шукае, мацае старая ў цямноце па зямлі. І мужа клянець: «Ці-ж гэта мне аднэй трэба клапаціцца аба ўсём? Ах, ты, шашок»...

І можна было-б і апліканту усьміхнуцца з яе як зробілі усе, і навет Казюк, калі праходзілі міма.

Але нуда яшчэ больш заціснула ў абцугі яго сэрца.

Во перайшлі па каменьню бурлячую рэчку. Абмінулі каменныя груды на мяжох шнуроў і гусьценныя парастні яленцу, што зялёна-чорнымі купамі падбягаў па долу аж да самай ваколіцы.

Ужо заміж вакаёму быў цёмны вечар, гаўкалі у ваколіцы сабакі і маркаталі загнатыя ў пуню авечкі; тужыла і сыпала трушком з палявога бульбянішча да хлева самая позная сьвіньня. І Міхася бразнула на яе зялезнымі калячкамі і ланцугом, што нясла, і сказала: „З нашага коміну дым ідзець".

— „Зроблены, зроблены..."—разважаў аплікант.— Рабіце як лепей,—казаў *непраменны* у часе разь-

# КРОНІКА.

### Ад Рэдакцыі.

Дзеля таго, што польскае войска йдзе ўсё наперад і кожны дзень аслабаняе новыя абшары беларускіх зямель ад бальшавіцкага панаваньня, злучаючы нашых братоў з намі, мы ад гэтага № 12 пачынаем друкаваць „Беларускае жыцьцё“ рускімі літэрамі (кірыліцай), зважыўшы тое, што ўва ўсходняй Беларусі больш людзей ведае рускія літары.

С часам, калі лік чытачоў нашай часопісі шмат павялічыцца, мы будзем яе друкаваць адначасна у двох выданьнях: лацінскімі літэрамі і рускімі (кірыліцай).

### НОВАЯ ЧАСОПІСЬ.

3 верасьня выйшаў у Вільні першы нумэр беларускай часопісі «Незалежная Беларусь». Газэта выходзіць 3 разы ў тыдзень: у панядзелкі, серады і пятніцы. Газэту падпісывае як рэдактар і выдавец А. Карабач.

### НОВЫЯ НАЗОВЫ ВУЛІЦ.

Магістрат апрацаваў новыя назовы для нейкіх вуліц нашага места. Праект затверджэн Камісарам м. Вільні. Вось якія вуліцы атрымалі новые найменьне:

| *Старая назова:* | *Новая назова:* |
|---|---|
| I Архангельскі завулак | Шчыгляная |
| II Архангельскі „ | Верабейная |
| Аўтамабільная вуліца | Шэрая |
| Абозная | Промовая |
| Абозная Новая | Прыязная |
| Абозная Вялікая | Абозная |
| I Афіцэрская<br>II Афіцэрская | Афіцэрская |
| Аранжэрыйны завулак | Капітульная |
| Арэнбурская | Сьміглага-Рыдза |
| Ашмянская Старая | Ашмянская |
| Ашманская Новая | Рудомінская |
| I Бэрнардынскі завулак | Бэрнардынская |
| II Бэрнардынскі „ | Млыновая |
| Біскупская | Мокрая |
| Бухарская | Слізкая |
| I Булгарская<br>II Булгарская | Сыракомлі |
| Вясёлая | Вітольдовая |
| Вясковая Дарога | Вясковая |
| Віцябскі завул. | Сьвенцянская |
| II Віцябскі „ | Парковая |
| Владзімірская вул. | Валынская |
| I Владзімірскі зав. | Гусіная |
| II Владзімірскі „ | Качыная |
| III Владзімірскі „ | Паўліная |
| Вароняя (Лесьнікі) | Багатэля |
| Вострабрамская (за мостам) | Бэліны |
| Гімназыяльная | Прытульная |
| Гоголя | Крашэўскага |
| Губэрнатарская | Гродзкая |
| Гродзкая | Ожэшковай |
| Жаўнерскі правы зав.<br>Жаўнерскі левы „ | Жаўнерская |
| Жыдоўская | Школьная |
| Інжынерны зав. | Падзамчэ |
| Карабінерская | Легіоновая |
| Карная | Пустая |
| Каўказская | Словацкага |
| Кальварыйская | Уланская |

вёрсткі і ўзноў са смакам апавядаў аб паляваньні у лясох Кастрамской губэрні, адкуль сам родам. — I вось зроблены, зроблены“...

Хлапец ішоў па вуліцы, прыгнецены сваім сумам, і ведаў, што увечары, пад полечкі і кадрылі патрона, будзе зусім блага на душы і захочацца стаяць доўга, доўга ў садзе, пад ясакарам.

Вуліца ня цешыла.

Раптам і зьняцейку з двара Сымончыхі выкацілась, як бомба, пялёса-рудая лычкастая сьвіньня, за ёю з закруткаю, разьюшоны і спуджаны імчаўся Франак. А за імі, са двара пацягнулася балючае бабскае выцьцё:

— А, Божа-ж мой, Божа! А, Божа-ж мой, Божа!..

Што гэта? Забіваюць каго, рэжуць? Забілі? — гэткая думка праляцела ў галаве кождага.

— „Нехта з дзяцей сканаў,—падумаў аплікант;— але па малых дзяцёх так горка тут ня плачуць... Нейкае большае гора? Франак?—жыў“...

А баба галосіць а галосіць.

Накінуўшы капоты, схапіўшы шапкі, выбягалі людзі. Ляцела ў сваёй расшпіленай блюзцы Каруся.

— Што там?

— Ня ведаю... Можа грошы ў яе пакралі зладзеі...

Аплікант узыйшоў на Сымончыхін панадворак. У пустой цёмнай пуні, ля сьцяны, сьхіліўшыся над нечым, як над нябожчыкам, выла Сымончыха.

Патроху набіраўся грудок суседачак, а Кароль цін бацька з-за прасла, са свайго двара пазіраў на ўсіх, як затуканы зьвер, с-пад і лба, ссаў файку і хутаў зызлыя рукі ў рукавы чорнага дублёнага кажуха.

Сьвіньня, выбіваючыся з духу і ськігочучы, памчалася цераз панадворак. Франак з паломленым кійком, важка дыхаючы, падыйшоў бліжэй да аплíканта.

— Чаго матка вые?

— Сьвіньня ніткі пагрызла...

А Каруся, усё асачыўшы, дадала:

— Сухотніца ніткі на кросны аснавала, павесіла сушыць, а сьвіньня іх пажвала і троху парвала.

— I ўсё? — запытаўся аплікант.

— Дык яна во й вылічаець, — быццам бязьвініла сябе Каруся перад ім, што навіна зусім невялічкая.

| | |
|---|---|
| Летняя Лагерная | Заместовая |
| Ломжынская (новая) | Холмская |
| Маяковая | Прамяністая |
| Манэжовая | Ціхая |
| Мэтрополітальная | Спаская |
| Мільёновая | Зялёны-Рыначак |
| Набэрэжная | Зыгмунтоўская |
| сьв. Нікадэмская малая | Локец |
| I сьв. Нікадэма зав. | сьв. Нікадэма |
| II сьв. Нікадэма „ | Тургельская |
| Ожэшковой | пляц Уніі |
| I Пясковая | Пясэчная |
| II Пясковая | Люблінская |
| Пекло | Радасьць |
| Піонэрская | Плютоновая |
| Палтаўская | Понарская |
| I Портовая, II Портовая | Портовая |
| Портовы зав. | Стромая |
| Перэяздовая | Вузкая |
| Полоцкая (ад Саскай Кэмпы) | Тракт Баторага |
| I Радунская | Пілсудскага |
| II Радунская | Радунская |
| Сэрбская | Касьцюшкі |
| Сергееўская | Львоўская |
| Сасновая | Ходзькі |
| Старая | Зана |
| Стэфанская Малая | Квашэльная |
| Суздальская вул. | Кракоўская |
| Суздальскі зав. | Сьляпая |
| Тамбаковая | Вівульскага |
| Фабрычная | Скорыны |
| Фэхнэроўская | Мышая |
| Хівінская | Фінская |
| Цароградзкая | Слуцкая |
| Чорнагорская | Касьцюшкі |
| Шклянная | Гданская |
| Шпітальная | Тэльшэўская |
| Эйгорна | Сьвентарога |
| Электрычная | Рыбакі |
| I сьв. Якубская вул. | Стычнёвая |
| II сьв. Якубская „ | сьв. Якубская |
| Ясная | Мамонічаў |
| I Ятковая | Страшунская |
| II Ятковая | Ятковая |
| сьв. Юрская | Міцкевіча |
| I сьв. Юрскі зав. (ад Мастовай вул. да касьцёла сьв. Юра) | сьв. Юрская |
| I сьв. Юрскі зав. (ад вул. Міцкевіча да сьв. Юрскай) | Пэрэскок |
| II сьв Юрскі зав. | вул. Сьнядэцкіх |
| I Юнкерская вул., II Юнкерская „ | Серакоўскага |

Сымончыха выйшла з пуні, маючы ў хударлявых руках перад выпнутым ціжарным жыватом пажваныя, ніткі — губкі дзьве-тры, — аснаваныя ў дзень на кросны. Яна ледзьва жывая, як посьле хаўтур самага дарагога і любага чалавека, сударжна і бязсільна ужо хліпаючы, ні на кога ня гледзячы, згорбленая цягнулася па смуроднай патапечы панадворка да разбураных ганак хаты.

Аплікант з паломаным настроем прыйшоў на кватэру, калі гаспадыня сьмяхотна апавядала аб пракудзе патрону; Міхася паліла лямпу, выглядаў з-за дзьвярэй Казюк і нейкія бабы. Усе сьмяяліся, былі дружней паміж сабою і сьмялей з патронам, а болей за ўсіх заходзіўся стары Казюк. Аж захлібнуўся, ніяк ня мог адкархацца і выцерці сьлёзы. Рагаталі за пераборкаю дзяўчаты.

Аплікант таксама засьмяяўся, падумаўшы.

Калі каморнікі вячэралі, патронава „проша" першы раз не засталася без увагі з боку хлопца. Калі-ж цяпло прыемна разьлілося па жылах, быццам нейкі чорт дыргаў яго пахваліцца, што яму... добра і весела.

Пасьля вячэры патрон зайграў полечку. Дзяўчаты, штурхаючы адна адну, прыйшлі у каморніцкі пакой і таньчылі колькі хацелі, і зусім не сароміліся паніча. І калі, чорт ведае, хто ушчыкнуў Монцю, навет зьвярнулі на яго. Патрон падміргнуў яму і сказаў, кідаючы гармонік па другое калена, а галаву набак:

— Брава, брава, „пан Тадэуш!" *Што панна што Ганна...*

Аплікант на гэта ня надта узлаваўся; толькі памысьліў: „Імець-жа веры чаму стары цынік"...

Позна клаўшыся спаць, сярод дыму ад табак і пылу ад скокаў, ён няўмысьля выраніў з кішані фатаграфію панны-гарадзянкі; блізка пад ложкам стаяла скрынка, і ён кінуў картачку туды.

— Усё тло... — буркнуў ён пад коўдраю і ўсьміхнуўся: ні-то сьвіньня уцякала прад вачмі, ні-то было так сабе нешта...

Прабегла ў галаве: акінуты, апусьцелы сад; мокры, шумячы ясакар; прытуліцца да яго...

І хлапец салодка заснуў.

**М. Гарэцкі.**

---

**Рэдакцыя і Адміністрацыя**: Бакшта 11. Ад 4 да 7 гадзіны ў вечары апрача сьвят.

Рэдактар і выдавец **Францішк Алехновіч.**

Пазволено Ваеннаю цэнзураю. Друкарня «Віленскага Выдавецтва» Квашэльная 23.